Гродна
№1 (483),
7 студзеня 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# МОЛАДЗЬ У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

**Новы, 2018 душпастырскі год у Беларусі абвешчаны Годам моладзі. Гэтае рашэнне было зацверджана падчас 67-га пленарнага пасяджэння Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, што адбылося ўканцы мінулага года ўАпостальскай нунцыятуры ўМінску. Старшыня Рады па справах свецкіх і моладзі пры ККББ дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі распавядае пра выклікі сучаснасці і сутнасць душпастырскай працы з маладымі людзьмі.**

• працяг на с. 4








**"Не забудзем падзякаваць Богу за ўсё дабро, якое атрымалі". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### СВЯТА ХРОСТУ ПАНА
**Мк 1, 7–11**

Ян Хрысціцель прапаведаваў, кажучы: "Ідзе за мною мацнейшы за мяне, якому я не варты, нахіліўшыся, развязаць раменьчык на Яго сандалях. Я хрысціў вас вадою, а Ён будзе хрысціць вас Святым Духам".

І сталася ў тыя дні, прыйшоў Езус з Назарэту, што ў Галілеі, і быў ахрышчаны Янам у Іардане. І адразу, калі выходзіў з вады, убачыў нябёсы раскрытыя, і Духа, як голуба, сыходзячага на Яго. І пачуўся голас з нябёсаў: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я".

### ХРОСТ – СУСТРЭЧА З ХРЫСТОМ

Евангелле прыводзіць нас на берагі ракі Іярдан, дзе адбылося хрышчэнне Езуса. Гэта было паваротным момантам у жыцці Хрыста. З той хвіліны Ён не быў ужо простым цесляром з Назарэта – стаў Веснікам Божага Валадарства.

Хрост быў і застаецца паваротнай падзеяй і ў нашым жыцці. Праз яго ўваходзім у новую супольнасць, у супольнасць веры, супольнасць Касцёла. Вада хросту змывае першародны грэх і вяртае ласку, якой з'яўляецца жыццё Бога ў чалавеку. Мы сустракаемся з Хрыстом, што фарміруе ўсё наша існаванне.

З Езусам мы "пахаваныя" ў хросце – як гэта вобразна прадстаўляе св. Павел (параўн.: Клс 2, 12) – і з ім паўстаём да новага і вечнага жыцця. Важнасць хросту нястомна адкрываем, разважаем і паглыбляем. Дзякуем Богу, што вада першага сакраманту распачала наша хрысціянскае жыццё.

**Ці дбаю я аб тым, каб заўсёды быць у стане асвячальнай ласкі?**

**Ці памятаю пра гадавіну свайго хросту?**

### II НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ
**Ян 1, 35–42**

Стаяў Ян Хрысціцель і двое з вучняў ягоных і, калі ўбачыў Езуса, які ішоў, сказаў: "Вось Ягнё Божае". І пачулі двое вучняў яго, што ён сказаў, і пайшлі за Езусам. А Езус, азірнуўшыся і ўбачыўшы, што яны ідуць за Ім, сказаў: "Чаго шукаеце?". Яны сказалі Яму: "Раббі (што азначае «настаўнік»), дзе жывеш?". Ён сказаў ім: "Ідзіце і ўбачыце". Яны пайшлі і ўбачылі, дзе Ён жыве, і засталіся ў Яго ў гэты дзень. Было ж каля дзясятай гадзіны.

Андрэй, брат Сымона Пятра, быў адным з двух, якія пачулі ад Яна пра Езуса і пайшлі за Ім. Знайшоў ён спачатку брата свайго Сымона і кажа яму: "Мы знайшлі Месію" (гэта значыць Хрыста). І прывёў яго да Езуса. Езус, глянуўшы на яго, сказаў: "Ты Сымон, сын Яна; ты будзеш названы Кефас" (што азначае "Пётр", "скала").

### СПАЗНАЦЬ ПАНА

Умець спыніцца, каб разглядзець Езуса, які праходзіць побач, – гэта ў сённяшні час вялікае мастацтва. Мы ўжо прызвычаіліся, што павінны шмат бегаць, нешта рабіць, такім чынам "дзейнічаючы для Езуса". Прыслухаваемся да закліку пашырэння веры, евангелізацыі. Стараемся не абмінуць ніводнай рэлігійнай акцыі, прамаўляем разнастайныя малітвы. Аднак апрача ўсіх гэтых спраў, якія, бясспрэчна, вельмі патрэбныя і нават абавязковыя, нам неабходны таксама хвіліны суцішэння, каб сустрэцца з Тым, для каго ўсё гэта робім і хочам рабіць далей. Калі не спазнаем Хрыста, усе нашыя старанні не будуць мець ніякага сэнсу і значэння.

Кожная сустрэча з Езусам дапамагае зразумець, да якіх дзеянняў Ён нас заклікае. Пан запрашае ствараць прастору для сустрэчы з Ім падчас кожнай малітвы, Эўхарыстыі, а таксама ў сітуацыі, калі маем магчымасць сведчыць пра Бога.

**Ці ўмею я спыніцца, каб распазнаць Пана?**

**Ці зразумеў, да чаго мяне запрашае Хрыстос?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Чарговы год прыходзіць да нас!

*Некалькі дзён таму мы з верай і надзеяй распачалі наступны год Панскі. Разам з ім атрымалі новы пачатак, будучыню, якая яшчэ не мае канкрэтных абрысаў, але ўжо паступова становіцца нашай рэальнасцю.*

Кожны новы год для хрысціяніна – гэта шанс і нагода, каб здзяйсняць добрыя справы і фарміраваць сваю "ролю" так, каб яна дала найцудоўнейшыя плады цяпер на зямлі і потым у вечнасці. Таму пачатак года нясе з сабой новыя надзеі і разнастайныя выклікі.

Новае часта бывае складаным. Нездарма ж кажуць, што "цяжка пачаць". Але на гэтым шляху мы ніколі не адзінокія, паколькі на працягу стагоддзяў побач крочыць Той, хто для нас прыйшоў у свет. Ён – Слова, што было на пачатку; Слова, якое рассеяла змрок смерці. Крокі ў невядомае адгэтуль і назаўсёды асвячаюцца Яго бляскам, таму што Бог у сваёй міласэрнасці захацеў, каб Яно стала нашым Правадніком.

Згодна з рашэннем біскупаў Беларусі, 2018 год будзем перажываць пад дэвізам "Моладзь – надзея Касцёла і грамадства". Такім чынам уключымся ў падрыхтоўку да XV Звычайнай асамблеі Сінода Біскупаў, прысвечанай справам маладога пакалення, якая адбудзецца ў Ватыкане ў кастрычніку. Прагнем засяродзіць сваю ўвагу на моладзі, каб дзень за днём у яе ўзрастала захапленне рэчаіснасцю, а праз гэта – глыбокае жаданне дасканаласці, гармоніі і шчасця, якія можна спазнаць толькі ў Богу. А захапляльны лад жыцця ў хрысціянстве можна ўбачыць толькі тады, калі разумець, што Хрыстос – адзіная крыніца, з якой можна атрымаць усю паўнату цудоўнай рэчаіснасці Трыадзінага Пана.

Мы вельмі часта з'яўляемся сведкамі таго, як маладыя людзі адыходзяць ад веры і Бога. Забываюцца пра тое, што ім падорана цудоўнае жыццё. Не здольны разглядзець прыгажосць гэтага свету, бачаць толькі абмежаванні. Не ўмеюць наладжваць сямейныя сувязі, шанаваць любоў і перажываць цярпенні. Перад намі вялікае заданне – малітва ў інтэнцыі моладзі, каб адкрывала прыгажосць гэтага свету і заўважала ўсё яго духоўнае багацце, каб трывала моцная ў веры, мужна абвяшчаючы Хрыста, і штодзённа рэалізавала свае хрысціянскае пакліканне.

Варта затрымацца на пачатку новага года ля Езусавых ясляў з нашымі пытаннямі пра ўсё невядомае і пра тое, што напаўняе сэрцы неспакоем. Варта дaручыць Богу маладых людзей, якія забыліся пра вечнае і святое.

**Дарагія Чытачы!**

Пан, які ёсць Слова, дае моц усім, хто Яго прымае. Калі распазнаем і прымем Слова, Усемагутны зробіць нас сваімі дзецьмі і дасць магчымасць радасна і змястоўна перажыць кожны дзень. Жадаю, каб новы, 2018 Панскі год прынёс Вам плён Божай ласкі ў штодзённым жыцці і напоўніў сэрцы сапраўднай радасцю, якая вынікае з упэўненасці, што Стварыцель усіх нас любіць і прагне бачыць шчаслівымі.

## "НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ"

# СВ. ЮЗАФ СЕБАСЦЬЯН ПЕЛЬЧАР: ЗАСТУПНІК ХВОРЫХ, УБОГІХ І ЭМІГРАНТАЎ



*У іканаграфіі св. Юзаф Пельчар прадстаўляецца ў біскупскай вопратцы.*

***Біёграфы, спрабуючы адлюстраваць духоўнае жыццё святога, акрэслівалі яго як "homo marianus" ("чалавека марыйнага"), вернага сына Касцёла, апекуна ўбогіх, руплівага пастыра душ або мілосніка Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Дэвізам свайго жыцця, якое прысвяціў на Божую хвалу і збаўленне душ, Юзаф выбраў словы: "Усё для Найсвяцейшага Сэрца Езуса праз Беззаганныя Рукі Найсвяцейшай Панны Марыі".***

### УЗРУШАНЫ ГЛЫБОКІМ КЛОПАТАМ ПРА МАРАЛЬНАСЦЬ

Юзаф нарадзіўся 17 студзеня 1842 года ў Корчыне каля Кросна (Польшча) у сям'і Войцеха і Мар'яны, земляробаў сярэдняга дастатку. Яшчэ да нараджэння сына набожная маці ахвяравала яго Найсвяцейшай Панне Марыі.

Будучы святы рос у глыбока рэлігійнай атмасферы. З 6-гадовага ўзросту быў міністрантам у парафіяльным касцёле. Пасля школы паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Пшэмыслі. У 1864 годзе прыняў святарскія пасвячэнні, а пасля іх на працягу паўтара года служыў вікарыем у Самбожы.

У 1865–1868 гадах праходзіў дактарантуру ў Рыме адначасова на 2-ух аддзяленнях: кананічнага права і тэалогіі. Глыбокае ўнутранае жыццё і вывучэнне прац падзвіжнікаў прынеслі плён у выглядзе работы пад назвай "Духоўнае жыццё, ці хрысціянская дасканаласць". На працягу дзясяткаў гадоў ёю шмат карысталіся як святары, так і свецкія асобы. З Вечнага Горада, апрача паглыбленых ведаў, Юзаф вынес вялікую любоў да Касцёла і папства.

Пасля вяртання ў краіну працаваў выкладчыкам у семінарыі ў Пшэмыслі, прафесарам і рэктарам Ягелонскага ўніверсітэта. Акрамя гэтага актыўна займаўся касцёльна-грамадскай дзейнасцю. Быў вельмі старанным і мудрым у вырашэнні важных спраў, меў дасканалую памяць. Адным са шматлікіх доказаў яго працавітасці з'яўляецца багатая пісьменніцкая спадчына: тэалагічныя, гістарычныя працы і кнігі з вобласці кананічнага права, падручнікі, малітоўнікі, пастырскія лісты, прамовы і казанні.

Вылучаўся стараннасцю і асаблівым набажэнствам да Найсвяцейшага Сакраманту, Сэрца Божага і Найсвяцейшай Панны Марыі. У 1894 годзе заснаваў у Кракаве Кангрэгацыю Сясцёр Служак Найсвяцейшага Сэрца Езуса (сэрцанкі), мэтай якой з'яўляецца распаўсюджанне Валадарства Божага Сэрца ў свеце.

У 1899 годзе стаў дапаможным біскупам, а праз год – ардынарыем Пшэмыслькай дыяцэзіі. Як руплівы пастыр клапаціўся аб святарскай вернікаў. Натхненне і моц да апостальскай працы чэрпаў у Найсвяцейшай Ахвяры і палымянай малітвы. Аб'ектам яго асаблівага клопату было жыццё ўбогіх і хворых. Ашчадны ў адносінах да сябе, ён шчодра падтрымліваў усе добрыя і патрэбныя ініцыятывы. Спачатку нягодам працаўнікоў, шмат увагі прысвячаў праблемам эміграцыі і алкагалізму.

Памёр у Пшэмыслі 28 сакавіка 1924 года ў арэоле святасці. Быў беатыфікаваны ў 1991 годзе, кананізаваны – у 2003 годзе. Рэліквіі святога знаходзяцца ў катэдры ў Пшэмыслі.

### ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. ЮЗАФА СЕБАСЦЬЯНА ПЕЛЬЧАРА?

У сучасныя неспакойныя часы святы вучыць нас адчувальнасці да іншых, асабліва да тых, хто знаходзіцца ў патрэбе, гасціннасці да людзей, якія не маюць даху над галавой ці кавалка хлеба або нават не чуюць добрага, падбадзёрваючага слова.

### ЦІКАВА!

Калісьці кс. праф. Караль Вайтыла спытаўся ў алюмнаў, над якім духоўным чытаннем яны схіляюцца. Клерыкі адказалі, што чытаюць "Біскупа Пельчара" і іх уражвае старасвецкасць формы. На гэта будучы Папа адказаў: "Хлопцы, хлопцы... Там лавіны праўды!".

### З ВУСНАЎ СВЯТОГА

"Мы павінны любіць Пана Бога, бо Ён – самы міласэрны Стварыцель, самы літасцівы Пан, самы дасканалы Айцец, і таму слушна, каб стварэнні любілі свайго Стварыцеля, слугі – свайго Пана, дзеці – свайго Айца" ("Духоўнае жыццё, ці хрысціянская дасканаласць").

### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае св. Юзафа Себасцьяна Пельчара 19 студзеня.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Распачаць усё нанова

**Надышоў новы год... Разам са зменай лічбы ў календары многія людзі мараць аб змене жыцця ў лепшы бок. У суме, гэта выдатная нагода, каб пачаць спачатку. Як дзейнічаць, каб удалося рэалізаваць навагоднія пастановы?**

Першачаргова задумайся, што Табе на самой справе не падабаецца ў сваім жыцці, чаго жадаеш, якія маеш патаемныя імкненні. Ад чаго ўцякаеш? З чым баішся сутыкацца? Якой канфрантацыі пазбягаеш? Праўда ў тым, што большасць з нас інтуітыўна адчувае, за што павінны ўзяцца, каб змяніць сваё жыццё. Але праз год гэта можа быць толькі сумай хаатычных рухаў несвядомасці і звычайных падзей, калі ўжо цяпер адказна не возьмемся за тое, што патрабуе ўмяшання.

**1.** Не рабі пастаноў, складзі план. Не гавары, што кінеш курыць. Не сцвярджай, што зменіш працу. Падобныя абяцанні не набліжаюць да мэты. Каб рэалізаваць пастанову, не дастаткова толькі мець туманнае бачанне фіналу змены, патрэбны дакладны план, як гэтага дасягнуць. Вылучы хаця б некалькі чарговых крокаў на шляху да мэты і абавязкова запішы, каб пасля можна было пераможна выкрасліць іх са спіска.

**2.** Не адкладвай дзеянні, стартуй ужо цяпер, зараз! Чым хутчэй пачнеш ісці ў напрамку змен, якія Цябе прыгнятаюць, тым хутчэй дасягнеш мэты.

**3.** Усвядомь сабе, што змены патрабуюць часу. Калі прымеш гэта, не паддасіся расчараванню пры пачатковых няўдачах і цяжкасцях.

**4.** Кантралюй свой план дзеянняў і адсочвай прагрэс. Тады будзеш ведаць, колькі Табе яшчэ не хапае. Будзеш таксама матываваны тым, чаго ўжо дасягнуў. Напісаны план можна змяніць, але толькі ў лепшы бок. Не карэкціруй яго для таго, каб аблягчыць сабе заданне, бо ў такім выпадку запаволішся і зробіш менш, чым мог бы.

**5.** З хірургічнай дакладнасцю даследуй сэрца, ці не затоена ў ім якое-небудзь непрынятае цярпенне. Калі знойдзеш такое, прысвяці яму столькі ўвагі, колькі будзе неабходна. Кожны, нават самы маленькі, фрагмент ігнараванага болю з часам перарастае ў "пухліну", выдаліць якую з кожным годам становіцца ўсё цяжэй.

**Памятай, што Бог хоча здзяйсняць Твае мары, калі яны не шкодзяць іншым людзям і Табе самому. Таму даручы Пану свае планы, і Ён дапаможа рэалізаваць Твае задумкі.**

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*



## Захаваць тое, што існуе

*Драўляны лямус кляштара сясцёр брыгітак у Гродне з'яўляецца адзіным у сваім родзе – пабудаваным без ніводнага цвіка – архітэктурным помнікам у Беларусі. Гэта ўнікальны ў многіх адносінах аб'ект, які вылучаецца асаблівай канструкцыяй і формай, мае бясспрэчныя гістарычныя, архітэктурныя і навуковыя вартасці.*

*Завяршыўся 2-гі этап прац па аднаўленні ўнікальнага драўлянага лямуса, што размяшчаецца на дзядзінцы кляштара сясцёр брыгітак у Гродне. Старажытны будынак быў значна пашкоджаны ў выніку разнастайных прыродных фактараў, а таксама з-за адсутнасці кансервацыйных работ.*

Як адзначае кс. Аляксандр Сасноўскі, кіраўнік эканамічна-будаўнічага аддзела Гродзенскай дыяцэзіі і адказны за рэстаўрацыю лямуса, на гэты раз галоўнай задачай спецыялістаў было выдаленне хібаў і пашкоджанняў, выкліканых уздзеяннем біялагічных і атмасферных фактараў. Чарговы этап рамонту прадугледжваў рэканструкцыю і замену знішчаных і тэхнічна зношаных элементаў, а таксама кансервацыю асобных частак пры строгім захаванні адпаведных рэкамендацый.

***"Былі разабраны мураваныя сцены і коміны, бо яны не аўтэнтычныя,*** – гаворыць кс. Аляксандр. – ***Пасля таго, як аббілі тынкоўку, знайшлі цэглу, што датуецца 50-ым гадам XX стагоддзя. Трэба думаць, што сям'я, якая жыла ў лямусе ў савецкі час, зрабіла гэтыя сценкі, перагародкі і печкі, каб стварыць сабе больш утульныя ўмовы для жыцця. Таксама была праведзена кансервацыя і замена драўляных элементаў – асноў сцен, бэлек і слупоў. Быў разабраны дах: сарваны стары гонт, заменена апалубка. Спецыялісты адрамантавалі апоры даху, умацаваўшы кроквы дошкамі, прапітаўшы ад шкоднікаў і абараніўшы ад цвілі. Пасля чаго дах прыкрылі новым слоем толю і падрыхтавалі да накрывання гонтам".***

Святар расказвае, што найбольшай складанасцю, з якой прыйшлося сутыкнуцца спецыялістам, быў рамонт унутраных і знешніх драўляных сцен і замена зношаных элементаў. Каб выканаць гэтыя работы, спатрэбілася падняць увесь лямус на пад'ёмніках. Будынак вельмі цяжкі, таму некаторыя з іх не вытрымлівалі. Толькі пасля таго, як са страхі знялі ацяпленне, якое складалася з гліны, перамешанай з саломай, стала магчымым падняць будынак. Пры гэтым трэба было дадаткова змацаваць паміж сабой сцены, каб будынак не разваліўся. ***"Чарговай праблемай, з якой мы сутыкнуліся, стала тое, што адзін вугал лямуса на 30 см ніжэйшы за астатнія. Патрэбны былі дадатковыя падлікі, каб выраўняць іх. Потым рукамі сцены ачышчаліся да асновы натуральнай драўніны: выдалены рэшткі цэменту і вапны, якімі былі ўшчыльнены вянкі",*** – адзначае кс. Аляксандр.

*Над аднаўленнем гродзенскага лямуса працуюць архітэктары, інжынеры, дызайнеры і іншыя кваліфікаваныя спецыялісты. Яны выкарыстоўваюць гістарычныя будаўнічыя тэхналогіі, маючы багаты вопыт у гэтай вобласці. Будынак аднаўляецца дзякуючы датацыям Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы.*

Святар падкрэслівае, што ўсе працы выкананы згодна з падрыхтаванай раней праектнай дакументацыяй. Умяшанне ў арыгінальную структуру будынка было абмежавана да мінімуму, каб захаваць унікальны характар аб'екта. ***"Цяпер нас чакае чарговая задача – 3-ці этап прац па рэстаўрацыі лямуса. Неабходна накрыць увесь дах гонтам, замяніць некалькі бэлек на страсе, а таксама выканаць шэраг сталярных работ, адрамантаваць знешнюю лесвіцу і цэлую балюстраду",*** – дзеліцца кс. Аляксандр.

Эксперты сцвярджаюць, што драўляныя аб'екты хутка падлягаюць псаванню, таму неабходна асаблівая асцярожнасць пры іх эксплуатацыі. Дастаткова некалькіх гадоў – і незабяспечаны аб'ект будзе незваротна страчаны. ***"Цешыць той факт, што аднаўленне лямуса ў Гродне набірае хуткасці. Неўзабаве гэты прыгожы драўляны гістарычны будынак з цудоўнай архітэктурай атрымае шанс на новае жыццё і стане прывабным турыстычным аб'ектам горада над Нёманам",*** – падкрэсліваюць спецыялісты.



*Кінга Красіцкая*

## Слова для жыцця



*Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*

*Для ўсіх нас, кім бы ні былі,ззяе Бэтлеемская зорка. Давайце прымем Бога ў свае дамы і сэрцы. Няхай Ён разʼясняе ўсе змрокі нашага жыцця і кіруе намі. Давайце на прыкладзе пастушкоў расказваць іншым пра тую радасць, якую перажываем, да якой дакрануліся гэтай ноччу. Нельга пакідаць яе толькі для сябе...*

*Заўважце, што з моманту нараджэння Пана Езуса наша жыццё набыло сэнс. Людзі не жывуць проста для таго, каб жыць, каб забіць час. Трэба ўсведамляць, што Бог падумаў пра кожнага з нас, бо Яго Слова прыйшло ў свет, каб усе мы былі братамі і сёстрамі Пана Езуса і жылі так, як Ён: на славу Божую і на карысць людзям.*

*Трэба памятаць, што жыццё чалавека не бессэнсоўнае. Яно нібы старонка 5-га Евангелля. Іх 4, але яшчэ адно – вялікае, 5-ае – пішуць людзі: кожны з нас з'яўляецца адной са старонак гэтага Евангелля. Часам такая старонка можа быць пустой, можа быць бруднай, парванай, затаптанай... А можа быць і прыгожай, падобнай на сярэднявечныя рукапісы, поўныя цудоўных колераў і гармоніі, якой чалавек захапляецца.*

*Фрагмент гамiліі, прамоўленай падчас св. Імшы Пастэркі ў касцёле Святой Сям'і ў Лідзе, 24.12.2017*



### Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі

*Свята Святой Сям'і – Езуса, Марыі і Юзафа – з'яўляецца нагодай, каб падзякаваць Богу за ўсіх, хто абвяшчае Евангелле жыцця. Трэба належным чынам ацаніць усякія дзеянні рухаў і асоб добрай волі, якія прагнуць прычыніцца да абароны зачатага дзіцяці.*

*Сярод шматлікіх ініцыятыў у справе святасці жыцця можам вылучыць "Духоўнае ўсынаўленне", вельмі распаўсюджанае ў нашым Касцёле. Тут маем на ўвазе ўсіх тых, хто праз штодзённую малітву на працягу 9-ці месяцаў ахвяруе свой час у інтэнцыі жыцця дзіцяці, якое знаходзіцца пад пагрозай пад сэрцам маці. [...] Верым, што клопат "Духоўнага ўсынаўлення" дадае адвагі і надзеі маці, што чакаюць патомства, асабліва тым, якія па розных прычынах вагаюцца, ці дазволіць іх дзіцяці прыйсці ў свет.*

*Заахвочваем да адважнага сведчання сваёй чалавечай істоты праз падтрымку жыцця. Няхай новы год прынясе Вам новыя сілы і энтузіязм у прыняцці адказнасці за цывілізацыю жыцця, абараняючы яго ад першых хвілін ажно да натуральнай смерці. Вера ў нараджэнне Езуса Хрыста няхай учыніць Вас здольнымі браць на сябе важнае служэнне на карысць годнасці чалавечай асобы.*

*Фрагмент паслання на нядзелю Святой Сям'і 2017*




◆ *Апостальская сталіца выдала новыя рэкамендацыі, што датычаць перадачы і выстаўлення рэліквій святых, а таксама іх абмену і перамяшчэння паміж кляштарамі і абацтвамі. "Гандаль і продаж рэліквій абсалютна забаронены", – прыгадала Кангрэгацыя па справах кананізацыі. Расчляненне цела святога без згоды Ватыкана таксама строга забаронена. Біскупы павінны атрымаць згоду членаў сям'і на эксгумацыю цела патэнцыяльнага кандыдата да кананізацыі. Падкрэсліваецца, што рэліквіі могуць быць выстаўлены ў святынях толькі тады, калі маюць пасведчанне сапраўднасці. Іх нельга паказваць "у недазволеных ці апаганеных месцах" або выкарыстоўваць у святатацкіх рытуалах.*

◆ *Як і кожны год, Святы Айцец Францішак наведаў у манастыры "Mater Ecclesiae" ў Ватыкане Папу на пенсіі Бенедыкта XVI. Пантыфік склаў свайму папярэдніку святочныя віншаванні з нагоды Божага Нараджэння. Як паведамляе прэс-бюро Апостальскай Сталіцы, сустрэча адбылася 21 снежня 2017 года і доўжылася каля паўгадзіны.*

◆ *У Асона (Італія) у 18-ты раз была арганізавана выстава пад назвай "100 шопак". Сёлета на ёй прадставілі 890 прац – больш, чым жыхароў у мясцовасці, дзе праводзіцца традыцыйнае мерапрыемства. Усе творы выкананы мясцовымі майстрамі, рамеснікамі, таварыствамі, часам з арыгінальных матэрыялаў, такіх як зерне, ракавінкі, ствалы дрэў або лісце. Выстава штогод прыцягвае турыстаў з розных куткоў Італіі. Яны разглядаюць шопкі, ідучы вулачкамі святочна ўпрыгожанага гарадка ўздоўж чырвонага ланцуга, які вызначае экскурсійную трасу.*

◆ *Татранская ледзяная базіліка пабудавана ў Барселоне (Іспанія). Верхні купал святыні сягае вышыні 25 метраў. Над праектам майстры працавалі па 10-12 гадзін у дзень. Для яго рэалізацыі спатрэбілася 1440 блокаў лёду агульнай вагой больш за 190 тон. Наведвальнікаў уражвае размах задумы і дэталі інтэр'ера, якія падкрэслівае кліматычнае асвятленне (у базіліцы падтрымліваецца пастаянная тэмпература -7 °С). Уваход у святыню бясплатны. Яна будзе адкрыта да сакавіка бягучага года.*

◆ *Паводле дадзеных даследавання, праведзенага па замове Фонду мамы і таты ў Польшчы, развод часцей за ўсё закранае сужэнствы са стажам 5–9 гадоў і да 4-ох гадоў, а таксама 10–14 гадоў. Затым колькасць змяншаецца разам з павелічэннем стажу, але, напрыклад, сужэнстваў, якія распадаюцца пасля 30-ці пражытых разам гадоў, больш, чым у прамежку 25–29 гадоў. Для 71% палякаў гэта з'яўляецца жыццёвым паражэннем, хаця ажно 88% лічаць, што любоў на ўсё жыццё магчымая. Да раставання сужэнцы не ставяцца абыякава, а 1/3 толькі што разведзеных лічаць, што гэтага можна было пазбегнуць.*

*credo.pro; pch24.pl; niedziela.pl*

● працяг са с. 1

# МОЛАДЗЬ У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ









**– Чаму менавіта Год моладзі?**

– Год моладзі – гэта працяг таго, што робіцца для маладых людзей і разам з імі ў Касцёле ў дыяцэзіі, Беларусі і свеце. Мы кіруемся, найперш, за Святым Айцом Янам Паўлам ІІ, які арганізаваў Сусветныя дні моладзі. Пантыфік шмат часу прысвячаў маладзёнам, разумеючы, што за імі – будучыня. Аб'яўлены ў Касцёле ў Беларусі Год моладзі будзе своеасаблівай падрыхтоўкай да СДМ, якія адбудуцца ў 2019 годзе ў Панаме. Таксама хутка ў Ватыкане пройдзе Сінод Біскупаў, прысвечаны праблемам маладога пакалення. У яго падрыхтоўчай працы можа і, я б сказаў, павінна прыняць удзел моладзь з усяго свету. Вельмі важна, каб гэты сінод быў не аб ёй, але разам з ёй. Касцёл чакае ініцыятывы з боку маладых людзей, каб адчуць подых сучаснасці і разглядзець праз іх заўтрашнюю перспектыву супольнасці вернікаў.

**– Ці існуе занепакоенасць тым, што адбываецца ў моладзевым асяроддзі?**

– Ідэя, што датычыць сінода, насамрэч наспявала на працягу дзесяцігоддзяў. Упершыню такую думку выказвала яшчэ падчас сустрэчы з папам Янам Паўлам ІІ Маці Тэрэза з Калькуты. І вось, час прыйшоў. На пераломе тысячагоддзяў шмат што ў свеце змянілася: грамадская абстаноўка, палітычная і эканамічная сітуацыя, нават крытэрыі маральнасці. Але што датычыць Евангелля Хрыста, то яно нязменнае і жывое ва ўсе часы. Настаў той востры момант, калі маладыя людзі твар у твар сутыкнуліся з ідэаламі, якія часамі могуць не супадаць або нават супярэчыць агульнахрысціянскім каштоўнасцям. Касцёл жадае выслухаць моладзь: якія яна мае мары, чаканні, чым жыве і што плануе. Пачуць і зарыентаваць маладых людзей у накірунку, які вядзе да сапраўднага шчасця.

**– Якую частку ад агульнай колькасці вернікаў складае моладзь?**

– У Гродне, напрыклад, дзясяткі тысяч маладых людзей. Але ў касцёле іх не відаць у такой колькасці! Не скажам, што моладзі няма – яна проста непрысутная ў супольнасці вернікаў. На наступны год пасля Першай святой Камуніі назіраем у касцёле ўжо меншую колькасць дзяцей. А на катэхезе для моладзі збіраюцца толькі некаторыя ад агульнай колькасці ахрышчаных равеснікаў. І калі ў першым выпадку адказнасць за іх прысутнасць на бацьках, то ў другім – гэта выбар саміх маладых людзей.

**– Чаму так адбываецца?**

– Частка моладзі сёння робіць стаўку на адукацыю. Я згодны, што гэта добрая інвестыцыя ў будучыню. Але варта правільна арганізоўваць свой час, каб яго хапала і на так патрэбнае духоўнае развіццё. Шмат маладых людзей, якія прыязджаюць у горад вучыцца, заклапочаны адаптацыяй на новым месцы, у калектыве... Але калі яны адразу не знойдуць часу на Касцёл, то, хутчэй за ўсё, не знойдуць яго і потым. Застануцца з перакананнем нібы "Бог ёсць, жыць не перашкаджае". Будуць расці, развівацца, набірацца сіл, энергіі, а ў касцёл прыйдуць толькі тады, калі "забаліць".

Часам маладыя людзі могуць не адчуваць падтрымкі з боку старэйшага пакалення, а гэта таксама вельмі важна. Так склалася, што бацькі сучаснай моладзі былі ў Касцёле, але не праяўлялі актыўнасці, таму што не мелі такой магчымасці. Некаторыя па-ранейшаму прытрымліваюцца поглядаў, быццам "у нас такога не было, і было нармальна" і навязваюць гэта сваім дзецям. У корані няправільна! Касцёл дынамічны, ён развіваецца. З'яўляюцца новыя выклікі часу, новыя абставіны, у якіх апынаецца грамадства і, у тым ліку, Касцёл. І ён прыстасоўваецца да сучасных умоў.

**– Як вярнуць тую частку "згубленай" моладзі?**

– Патрэбны правадыры, за якімі моладзь пайшла б. Другім словам, неабходны людзі, якія маглі б зацікавіць, "запаліць" моладзёнаў і павесці яе за сабою. І так атрымліваецца, што гэтымі самымі правадырамі могуць стаць прадстаўнікі актыўнай моладзі, якія задзейнічаны ў жыцці Касцёла. Ім не трэба саромецца гаварыць пра веру ў сваім асяроддзі. Маладыя людзі павінны ўмець весці не толькі свецкія бяседы, але і разважаць на рэлігійныя тэмы. Гэта не патрабуе энцыклапедычных ведаў, але, найперш, адвагі.

Касцёл не заўсёды дойдзе да месцаў адукацыі, працы, хоць і намагаецца з усіх сіл гэта зрабіць. Моладзь можа стаць тым звяном, якое злучыць згубленых авечак з Аўчарняй або запросіць у яе тых, хто нават пра яе не чуў. Так, мы ў Касцёле, і нам добра. Бо вядома добра! Але павінны таксама думаць пра іншых, паказваючы ім шлях да гэтага "добра". Усе мы пакліканы быць хрысціянамі на ўзор апостала Андрэя, які прыйшоў дадому і падзяліўся сваёй верай з братам.

**– Атрымліваецца, часта многім папросту не стае адвагі?**

– Гэта можа быць і маўклівае сведчанне веры. Католік паставіў на працоўным стале абразок – ён прыцягнуў увагу. Завязалася размова – маем нагоду для евангелізацыйнай дзейнасці. Можа, ніхто і не спытаецца пра абраз, але задумаецца. Хтосьці збянтэжыцца і не задасць пытанне, але пашукае ў інтэрнэце, што тая выява сімвалізуе, азначае. Такімі вось рознымі шляхамі чалавек, здараецца, прыходзіць да Бога. А для гэтага часам дастаткова кроплі смеласці з боку іншага чалавека, каб паказаць сваю прыналежнасць да Касцёла.

**– Наколькі развіта душпастырства моладзі ў Беларусі?**

– У большасці парафій яно функцыянуе на добрым узроўні. Спецыяльна для маладых людзей праводзяцца св. Імшы, дні засяроджання, рэкалекцыі, у тым ліку індывідуальныя, а таксама разнастайныя пілігрымкі, музычныя вечарыны і інш. Касцёл намагаецца адчуваць дух моладзі, каб яна па магчымасці і пляскала ў далоні, і патупацела, і паспявала. Заўсёды адкрыты на прапановы.

**– Ці можам у той жа час назваць слабыя бакі Касцёла ў Беларусі адносна працы з маладымі людзьмі?**

– Як слушна заўважыў падчас адной сустрэчы з біскупамі Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Габар Пінтэр, "усё, што мы робім, уплывае на выхаванне моладзі, і ўсё, чаго не робім, таксама ўплывае". Іерарх заахвоціў нас да яшчэ больш актыўнай працы з маладымі людзьмі, каб не абмяжоўвацца вопытам парафій, дыяцэзіі, а скіроўвалі свае позіркі на тое, як з моладдзю ўзаемадзейнічаюць у свеце, якія пытанні ўзнімаюцца ў іх асяроддзі, як вырашаюцца.

**– З якімі памкненнямі варта ўступаць у новы душпастырскі год?**

– Сёння ўсе позіркі скіраваны на моладзь: дзеці хочуць хутчэй вырасці і стаць дарослымі, старыя хочуць стаць маладымі. Моладзь – гэта надзея Касцёла і грамадства. Таму менавіта так і гучыць дэвіз душпастырскага года ў Беларусі. Маем давер да маладых людзей, што будуць трывалым падмуркам для супольнасці вернікаў.

Чакаем таго хлопца і тую дзяўчыну, якія прыйдуць і скажуць: "Мы ёсць! Што маем рабіць?". Няпраўда, што маладым людзям няма чым заняцца ў Касцёле. Было б жаданне! Ставім на мэце разварушыць моладзь, каб "аж дакучала". Тады жыццё ў супольнасці вернікаў заб'е ключом і абавязкова прынясе багаты плён.

**ККББ плануе правесці ўсебеларускі з'езд моладзі на ўзор тых, што адбываюцца ў свеце. У дадзены момант у дыяцэзіях распрацоўваюцца тэматычныя праграмы мерапрыемстваў на 2018 душпастырскі год, адпаведныя кожнаму з рэгіёнаў і лакальным выклікам.**

*Ангеліна Пакачайла*

# Якое імя Вы выбралі для свайго дзіцяці?



*Гэтае сакраментальнае пытанне задаюць бацькам падчас хросту іх дзіцяці. У 2017 годзе ксяндзы ў Гродне ўсё часцей чулі ў адказ наступныя імёны: Зоф'я, Дар'я, Ксенія, Паліна, Анастасія, Аліса, Арына, Вікторыя, Ульяна, Валерыя, Мілана, Арцём, Максім, Аляксандр, Міхал, Мікіта, Кірыл, Мацвей, Уладзіслаў, Глеб, Аляксей. Прычыны, якімі кіраваліся мамы і таты пры выбары імя для свайго патомства, былі самыя разнастайныя. Для адных вырашальным фактарам стала мода, для другіх – вера.*

## "Добрая" і "дрэнная" мода

Звычайна бацькі задумваюцца над выбарам імя для свайго дзіцяці задоўга да прыходу немаўляці ў свет, бо гэта адно з самых складаных рашэнняў. Імя з'яўляецца распазнавальным знакам чалавека, акрэслівае, хто ён, а таксама ўплывае на жыццё.

Сёння існуе тэндэнцыя даваць арыгінальныя імёны. ***"Мы хацелі, каб наша дачка вылучалася з натоўпу іншых, каб паклікаўшы яе на вуліцы, я была ўпэўнена, што адвернецца толькі яна, таму назвалі дзіця Віёрыка,*** – расказвае Анастасія. – ***Канешне, мы з мужам не раз задумваліся пра тое, што будзе, калі гэтае імя не спадабаецца дачцэ або ў будучым дзеці з падворка ці з класа будуць выказвацца, што яно занадта дзіўнае. Але ўрэшце прыйшлі да высновы, што менавіта так хочам звяртацца да сваёй дзяўчынкі. Кожны з бацькоў дае такое імя, якое хоча. І я згаджаюся з іншымі, хоць вялікі працэнт надаваных імён мне не падабаецца".***

Хоць выбар імя для дзіцяці здаецца цікавым і захапляльным, часта гэта становіцца сапраўднай праблемай. ***"Шукаючы імя, кожны член сям'і хацеў уставіць свае 5 капеек,*** – скардзяцца маладыя бацькі Андрэй і Кацярына. – ***Мы выслухалі мільёны каментарыяў. Некаторыя далікатна пыталіся: «Чаму такое імя? Ужо столькі гэтых Мілан!». Іншыя гаварылі проста: «У спалучэнні з прозвішчам гэтае імя будзе гучаць жудасна!». У дзядуль і бабуль былі свае перавагі, і яны, канешне, хацелі пераканаць нас спыніцца менавіта на іх прапановах. Нарэшце мы проста перасталі адказваць на пытанні пра імя і пачалі гаварыць, што прымем рашэнне, калі дачка народзіцца і мы ўбачым яе. Назвалі дзяўчынку Міланай, як і хацелі, а падчас хросту надалі ёй 2-ое імя – Марыя".***

*Польскія сацыёлагі звяртаюць увагу на пэўную заканамернасць: арыгінальныя, мудрагелістыя імёны выбіраюць часцей за ўсё людзі бедныя, неадукаваныя. Праз гэта яны хочуць вылучыць дзіця, вырваць з банальнасці, лічачы, што тым самым забяспечаць яму лепшы лёс.*

Імя павінна не толькі падабацца. Добра, калі для бацькоў яно мае нейкае большае значэнне, каб праз гады яны маглі растлумачыць дзіцяці, чаму назвалі яго менавіта так, а не інакш, па якіх пэўных важных для іх прычынах. ***"Я малілася праз заступніцтва св. Антонія аб дары патомства. Паабяцала сабе, што калі народзіцца сын, дам яму імя Антоній,*** – апавядае Алена. – ***Спачатку на свет з'явілася дачка, пазней – хлопчык. І мы разам з мужам вырашылі, што назавём яго Антоніем. Думаю, у будучым наша дзіця будзе ганарыцца сваім імем, таму што яно сапраўды прыгожае і мае цудоўнае пасланне. Шкада, што сёння бацькі ўсё часцей кіруюцца модай і выбіраюць імёны, якія не маюць нічога супольнага з хрысціянскай традыцыяй".***

## Варта, каб дзіця атрымала імя святога

У хрысціянскай традыцыі існуе перакананне аб сувязі імя з лёсам яго ўладальніка. Ужо ў Старым Запавеце чытаем: "Не бойся, бо Я адкупіў цябе, назваў цябе па імені твайму; ты Мой" (Іс 43, 1). У Евангеллі знаходзім наступныя словы: "Авечкі слухаюцца голасу ягонага; кліча сваіх авечак па імені і выводзіць іх" (Ян 10, 3).

Па Бібліі тое, што Бог надае імя чалавеку, азначае яго ўваход на новую дарогу жыцця. Выбраныя Панам атрымліваюць канкрэтныя заданні: Абрам становіцца Аўраамам, Якуб – Ізраэлем, Сымон – Пятром, а Саул – Паўлам.

Катэхізіс каталіцкага Касцёла сцвярджае, што "ў хросце імя Пана асвячае чалавека і хрысціянін атрымлівае сваё імя ў Касцёле. Гэта можа быць імя святога – вучня Хрыста, які пражыў сваё жыццё ва ўзорнай вернасці свайму Пану" (ККК 2156). Дзякуючы гэтаму, дзіця адначасова атрымлівае прыклад для пераймання, а таксама заступніка ў Небе. У Катэхізісе падкрэсліваецца таксама, што "імя кожнага чалавека святое. Імя – ікона чалавека. Яно патрабуе павагі да сябе на знак годнасці таго, хто яго носіць" (ККК 2158), а атрыманае імя застаецца назаўсёды, і "ў Валадарстве Нябесным заззяе ў поўным бляску таямнічы і непаўторны характар кожнай асобы, пазначанай Божым імем" (ККК 2159).

*На старажытным Усходзе імя адыгрывала найважнейшую ролю. Таго, што не мела імя (назвы), не існавала.*

***"У Кодэксе кананічнага права гаворыцца, што «бацькі, хросныя і пробашч павінны клапаціцца аб тым, каб не надаваць дзіцяці імя, чужое хрысціянскаму духу» (ККП, кан. 855). «Павінны клапаціцца» – гэта значыць, што Касцёл не можа патрабаваць, каб імёны, якія надаюць дзецям, заўсёды былі «святымі». Аднак калі бацькі хочуць назваць сваю дачку ці сына інакш і маюць на гэта канкрэтныя прычыны, просім падумаць пра 2-ое імя падчас хросту, каб дзіця атрымала заступніка,*** – тлумачыць кс. Руслан Мазан. – ***Святы апякун павінен дапамагаць ахрышчанаму ў дарозе да Бога і быць для яго прыкладам. Таму калі малое падрасце, бацькам трэба паказаць яму прыгажосць постаці заступніка, такім чынам тлумачачы свой выбар. Варта таксама навучыць яго малітве да Бога праз заступніцтва свайго апекуна. Для некаторых бацькоў нагаданне 2-га імя падчас хросту з'яўляецца выдатнай нагодай, каб праявіць пашану да сваіх родных. Жадаючы ўшанаваць дзядулю, бабулю ці іншага члена сям'і, бацькі вырашаюць назваць дзіця яго імем. Дастаткова таксама сужэнстваў, якія такім чынам хочуць увекавечыць ці выразіць удзячнасць пэўнай асобе, спатканай на іх жыццёвым шляху".***

Святар падкрэслівае, што выбар імя з'яўляецца важным і прыгожым заданнем. Таму бацькі павінны не толькі клапаціцца пра тое, каб імя ім падабалася, але і таксама падумаць пра тое, як дзіця будзе адчуваць сябе з ім у будучыні.

*Кінга Красіцкая*



*Кс. Юрый Гурскі,*
*вікарый парафіі Святой Сям'і ў Лідзе*

*Некаторыя дзяўчаты і хлопцы, якія яшчэ толькі мараць аб тым, каб узяць шлюб, задаюцца пытаннем, якое імя маглі б даць у будучыні свайму дзіцяці. Прычыны, якімі людзі кіруюцца, самыя разнастайныя. Некаторыя хочуць назваць сваіх дзяцей імёнамі папулярных акцёраў, спевакоў ці герояў тэлевізійных серыялаў. Для іншых гэтае пытанне мае накірунак у глыбіню іх веры – шукаюць святога апекуна для сына ці дачкі.*

*Калі паглядзець на школьныя дзённікі, то можна заўважыць, што ў некаторых класах, як правіла, нейкія імёны пераважаюць. Вядома, тут няма нічога дрэннага. Важна, аднак, каб рашэнне бацькоў як назваць дзіця было свядомым і абдуманым, народжаным з веры. У маёй святарскай практыцы ёсць некалькі маладых сужэнстваў, якія ў апошні час выбіралі імёны добра вядомых нам людзей, што пэўным чынам упісваюцца ў іх жыццё: Стэфанія, Ян, Павел, Дамініка...*

*У апошнія гады ў нашай парафіі ў рамках падрыхтоўкі да сакраманту канфірмацыі моладзь вельмі адказна ставіцца да выбару імя святога заступніка. Відаць, што для многіх сам момант вызначэння з'яўляецца па-сапраўднаму важным. Калі праз некалькі гадоў вяртаемся да таго факту, аказваецца, падзея была звязана з глыбокімі перажываннямі, якія пакінулі ў жыцці маладых людзей значны след.*

*Гэтак жа бацькам варта нагадваць сабе, што імя павінна мець "глыбіню". Калі называем хлопчыка імем бацькі, дзеда ці іншага продка, яно адразу ж наладжвае сувязь з гісторыяй сям'і. А калі даём імя з імпартнай мыльнай оперы, аб якой праз некаторы час усе забудуцца?..*

*Няхай пад імем дзіцяці хаваюцца глыбокія перажыванні яго бацькоў. Хай імя спее разам з імі і будзе плёнам гісторыі іх жыцця, веры ў Бога і працы ўсяго Касцёла.*







### Сотні тысяч ружанцаў на ўспамін аб прыездзе Папы

***Вырабам ружанцаў, якія стануць памяткай візіту Святога Айца ў Перу, на працягу 3-ох месяцаў займаюцца вязні з 11-ці турмаў у Ліме.***

*Старшыня Нацыянальнага пэнітэнцыярнага інстытута Карлас Васкес адзначыў, што 1200 вязняў працуюць у рэкордным тэмпе, каб зрабіць 200 тысяч ружанцаў да прыезду папы Францішка. Іх ствараюць паводле прадстаўленага архідыяцэзіяй узору: на медаліку ружанца будзе адлюстраванне Пантыфіка і сцяг Перу.*

*Папа наведае гэтую паўднёваамерыканскую краіну 18–21 студзеня.*




### Акцыя збору "няўгодных" падарункаў

***Яснагорскі дабрачынны пункт заахвоціў палякаў пасля свят сабраць нежаданыя прэзенты.***

*На такую ідэю натхніў ліст чытача ў каталіцкі штотыднёвік "Нядзеля". "Перыяд свят Божага Нараджэння непарыўна звязаны з уручэннем падарункаў. Многім мы ўсцешымся, але некаторыя адставім у куток. У той жа час для шматлікіх бедных сем'яў гэтыя непатрэбныя нам рэчы з'яўляюцца аб'ектам мар", – напісаў чытач. Ліст падштурхнуў а. Шымана Ботуля OSPPE, апекуна Яснагорскага дабрачыннага пункта, арганізаваць акцыю, якая мае на мэце збіранне дароў, што будуць размяркоўвацца паміж падапечнымі пляцоўкі. Паводле задумы, з дапамогі змогуць скарыстаць, у першую чаргу, шматдзетныя сем'і, бяздомныя і беспрацоўныя.*




### Адной з самых папулярных калядак 200 гадоў!

***Песня "Ціхая ноч", створаная ў 1816 годзе і выкананая праз 2 гады падчас Пастэркі ў невялічкім касцёле ў Обернддорфе каля Зальцбурга (Аўстрыя), простымі словамі і з вялікай чуласцю перадае таямніцу Божага Нараджэння.***

*У 2018 годзе з нагоды 200-годдзя першага выканання калядкі, рыхтуюцца юбілейныя ўрачыстасці. Між іншым, будзе адкрыты аднаўлены музей "Ціхай ночы" ў Оберндорфе і выстава з гэтай нагоды ў Зальцбургу. Аўстрыйская пошта ўшануе 200-годдзе "Ціхай ночы" выпускам спецыяльнай маркі.*

## НАВІНЫ



### Gloria in excelsis Deo!

Святам Хросту Пана ў Касцёле заканчваецца калядны перыяд, на добрае перажыванне якога дыяцэзіян блаславілі біскупы Аляксандр Кашкевіч і Юзаф Станеўскі. Іерархі ўзначалілі галоўныя ўрачыстасці ў ноч Божага Нараджэння ў лідскім касцёле Святой Сям'і і гродзенскім катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. Біскупы маліліся ў інтэнцыі плённага святкавання Нараджэння Пана, каб гэты час стаў для вернікаў асаблівым запрашэннем Бога ў свае дамы і супольнасці.

Як і штогод, у парафіях Гродзенскай дыяцэзіі быў зладжаны паказ батлеек. Праз іх вернікі мелі магчымасць наблізіць сабе таямніцу аднаго з галоўных хрысціянскіх свят. А калядняе прадстаўленне ў касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзятлаве нават пабачыў увесь свет! Фотаздымак спектакля быў надрукаваны на вокладцы папулярнай штодзённай амерыканскай газеты "The Wall Street Journal". Яго аўтар – беларускі фатограф Васіль Фядосенка (міжнароднае агенцтва навін і фінансавай інфармацыі "Reuters").

З тым, каб падзяліцца радасцю ад святкавання, нераўнадушныя дыяцэзіяне ініцыявалі ў калядны перыяд шмат акцый для патрабуючых. У смаргонскай парафіі св. Міхала Арханёла дзеці з Савіо-клуба наведалі пажылых людзей у Аддзяленні сястрынскага догляду пры гарадскім шпіталі, з візітам у дзіцячы сацыяльны прытулак даехалі прадстаўнікі салезіянскай сям'і моладзевага цэнтра. Маладыя людзі з парафіі лідскага касцёла Узвышэння Святога Крыжа нанеслі візіт дзецям са шматдзетных сем'яў, а таксама самотным, хворым і пажылым людзям. Навучэнцы Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі наведалі састарэлых і хворых у Доме міласэрнасці ў Каменцы (дэканат Шчучын).

Крыху радасці і дабрыні прынёс у стацыянар хоспіса Гарадской клінічнай бальніцы №3 г. Гродна дзіцячы хор "Misterium" з парафіі Маці Божай Анёльскай. У яго выкананні адбыўся калядны канцэрт з серыі "Музычны полудзень".

Сваёй творчасцю і настроем падчас Каляд дзяліліся студэнты з Афрыкі, якія выступілі з арыгінальным рэпертуарам перад мясцовымі вернікамі ў гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Па традыцыі з нагоды свят Божага Нараджэння ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне канцэрт даў дыяцэзіяльны хор "Cantate Domino".

На працягу ўсяго каляднага перыяду ў дыяцэзіі праходзілі аплаткавыя сустрэчы. Духоўныя, кансэкраваныя асобы, семінарыйная супольнасць, прадстаўнікі літургічнай службы алтара, моладзь, удзельнікі пілігрымак і іншыя вернікі збіраліся разам, каб скласці адзін аднаму святочныя віншаванні.

Незвычайнае аплаткавае спатканне для патрабуючых было арганізавана ў парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі. На сустрэчу ў рэстаран, які на добраахвотнай аснове прадаставіла адна з парафіянак, былі запрошаны пажылыя людзі і інваліды з аддзялення кругласутачнага прабывання для грамадзян пажылога ўзросту ў в. Лукашына (Іўеўскі раён). У падрыхтоўку пачастунку ўключыліся іншыя парафіяне, якія супольнымі сіламі прыгатавалі святочныя стравы. Усе прысутныя атрымалі падарункі, якія ўдалося сабраць дзякуючы акцыям, арганізаваным парафіяльным "Карытас".

## КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Дыскусійная сустрэча на тэму "Эўхарыстыя ў жыцці верніка" адбылася пры касцёле св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. Яе ініцыятарам выступіў рэдакцыйны калектыў часопіса "Дыялог". Мясцовыя вернікі дзяліліся сведчаннем, чым асабіста для іх з'яўляецца ўдзел у Найсвяцейшай Ахвяры і як яны перажываюць св. Імшу. У бліжэйшым нумары часопіса з'явіцца артыкул-справаздача з вынікам працы дыскусійнай сустрэчы.

Творчы вечар, прымеркаваны да Дня нараджэння знакамітага пісьменніка і паэта Адама Міцкевіча, адбыўся ў Навагрудскай раённай бібліятэцы. Яго арганізавалі ўдзельнікі польскага моўнага кола, што збіраюцца пры мясцовым касцёле св. Міхала Арханёла. У рамках мерапрыемства быў праведзены конкурс на тэму "Наколькі мы ведаем Адама Міцкевіча", пераможцы якога атрымалі памятныя сувеніры.

## АДНЫМ РАДКОМ



• На XXVI Міжнародных спаборніцтвах па настольным тэнісе, якія праходзілі ў Варшаве (Польшча), Марцэліна Марцінчык, Аліна Сеўрук і Аляксандр Дзіўрук з парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай Маці Міласэрнасці ў Гродне занялі 4-ыя месцы ў катэгорыях 2002–2009 г.н., Аляксандр Гусар – 5-ае месца ў спаборніцтве сярод апекуноў. • За кс. Тадэвуша Вышынскага СМ у 1-ую гадавіну смерці памаліліся ў капліцы Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. • Патранальнае свята Святой Сям'і адзначылі манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта. • Найстарэйшы святар у Беларусі кс. прэлат Юзаф Трубовіч (нарадзіўся ў 1926 годзе) адсвяткаваў чарговы Дзень нараджэння. • Традыцыйная навагодняя сустрэча для сем'яў з элементамі рэкалекцый адбылася ў кляштары сясцёр назарэтанак у Навагрудку.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

*Ангеліна Пакачайла*

## АНОНСЫ

### КАНЦЭРТ СЯМ'І ПАСПЯШАЛЬСКІХ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Паслухаць калядкі і пастаралкі ў аўтарскай апрацоўцы адной з найбольш знакамітых музычных сем'яў можна будзе 12 студзеня ў 20.00 у касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля (вул. Курчатава, 41).**

Гурт складаецца з 14-ці музыкантаў. Аб'ядноўвае 2 пакаленні вядомых ва ўсёй Польшчы і за яе межамі выканаўцаў з сям'і Паспяшальскіх.

### КАЛЯДНЫ КАНЦЭРТ АРГАННАЙ І ІНСТРУМЕНТАЛЬНАЙ МУЗЫКІ АДБУДЗЕЦЦА Ў НАВАГРУДКУ

**Мерапрыемства пройдзе 13 студзеня ў 18.00 у касцёле св. Міхала Арханёла.**

Падчас канцэрта прагучаць калядныя музычныя творы, вядомыя ў Польшчы, Францыі, Аўстрыі, Чэхіі, Венгрыі, Вялікабрытаніі, Ірландыі, Даніі, Балгарыі, Італіі і ЗША. Іх выканаюць дзеці з розных краін свету, навучэнцы міжнароднай школы ў Мінску. Упершыню з каляднай праграмай выступіць музычны праект "Bon Voyage".

### КАЛЯДНЫ СПЕКТАКЛЬ ПАКАЖУЦЬ У ГРОДЗЕНСКІМ КАСЦЁЛЕ НАЙСВЯЦЕЙШАГА АДКУПІЦЕЛЯ

**Прадстаўленне адбудзецца 14 студзеня. Пачатак у 17.30.**

Пастаноўку пад назвай "Для Бога няма нічога немагчымага" рыхтуюць маладыя артысты з Тэатра імя св. Яна Паўла II, які дзейнічае пры парафіі.

### XV ФЕСТЫВАЛЬ КАЛЯДНЫХ ПЕСЕНЬ АДБУДЗЕЦЦА Ў ІЎІ

**Традыцыйнае мерапрыемства пад назвай "Gloria in excelsis Deo" пройдзе 21 студзеня ў гарадскім Доме культуры. Пачатак у 14.00.**

У конкурснай праграме выступяць дзеці і моладзь: салісты, дуэты, трыо, квартэты, ансамблі і хоры з розных парафій Іўеўскага дэканата. На святочны канцэрт арганізатары запрашаюць усіх жадаючых.

*Перад адкрыццём фестывалю ў 11.00 у касцёле свсв. апосталаў Пятра і Паўла адбудзецца св. Імша.*

### XVII ДЭКАНАЛЬНЫ ПРАГЛЯД КАЛЯДАК І ПАСТАРАЛАК АДБУДЗЕЦЦА Ў САПОЦКІНЕ

**У бягучым годзе мерапрыемства, якое па традыцыі арганізоўваецца мясцовай парафіяй Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча, пройдзе 28 студзеня ў Доме культуры пад дэвізам: "Зорка, свяці! Калядка, ляці! Містэрыя няхай адбываецца...". Пачатак у 14.00.**

*Да ўдзелу запрашаюцца суполкі, хоры, салісты. Выступіць можа любы жадаючы. Узрост не абмежаваны. Аб жаданні прыняць удзел у праглядзе неабходна да 14 студзеня паінфармаваць пробашча парафіі ў Сапоцкіне кс. Антонія Абухоўскага па тэлефоне: (8 029) 888-18-29 або (8 0152) 99-21-30.*

*Падчас рэгістрацыі трэба ўказаць:*
- *імя і прозвішча выканаўцы або назву гурта ці групы;*
- *колькасць спевакоў;*
- *назвы калядак.*

*Кожны ўдзельнік можа прадставіць не больш за 3 калядкі (да 3-ох слупкоў).*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**10 студзеня 2004 г.** – а. Караль Шчэпанэк OFMCap, *проб. Ліпнішкі;*
**13 студзеня 1991 г.** – кс. прэлат Пётр Барташэвіч, *проб. Жалудок;*
**15 студзеня 1991 г.** – кс. Фелікс Сарока, *роб. Адэльск;*
**17 студзеня 2003 г.** – бп Эдуард Самсэль, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**19 студзеня 1968 г.** – кс. Мар'ян Вандалоўскі, *проб. Правыя Масты;*
**20 студзеня 1965 г.** – кс. Юзаф Навасадка, *проб. Тэалін;*
**20 студзеня 1976 г.** – кс. Стэфан Сечка, *проб. Ліпнішкі.*

## Каляндар падзей

***7 студзеня***
*Свята Хросту Пана.*

***14 студзеня***
*Сусветны дзень эміграната і бежанца. Заахвочваем да малітвы ў інтэнцыі бежанцаў і тых, хто вымушаны пакінуць Бацькаўшчыну.*

***18–25 студзеня***
*Тыдзень паўсюднай малітвы аб адзінстве хрысціян. Заахвочваем да малітвы аб еднасці ўсіх вызнаўцаў Хрыста.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".* ***Чарговы выпуск – 6 лютага.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Студзень***

*Каб хрысціяне розных канфесій у нашай дыяцэзіі прагнулі жыць у сапраўднай еднасці і ўзаемнай любові паводле навукі Хрыста і Яго Касцёла.*

# Ад шчырага сэрца

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, усім Ксяндзам і Манаскім Сёстрам, а таксама Працаўнікам курыі і ўсім, хто дапамагаў нам у цяжкіх хвілінах,**
з нагоды свят Божага Нараджэння жадаю здароўя, шчасця, дапамогі святога Юзафа і Найсвяцейшай Панны Марыі.

*Яніна Макарчык*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні: здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа. Няхай Беззаганная Маці якая прынесла ў свет Езуса Хрыста, прытуляе Вас да свайго Сэрца. Шчыра дзякуем за малітвы і клопат пра Касцёл на Гродзеншчыне.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму, Ксяндзам Пробашчу Андрэю Пышынскаму і Юрыю Канапельку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: благаслаўлення ад Дзіцятка Езус, нястомнай апекі Маці Божай, дароў Святога Духа. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы, а побач заўсёды знаходзяцца зычлівыя людзі.

*Парафіяне з касцёла ў Мсцібаве і капліцы ў Бортніках*

**Паважаным Ксяндзам Каноніку Здзіславу Вэдэру, Аляксандру Мятліцкаму, Паўлу Раманоўскаму, Віктару Захарэўскаму, Юзафу Багдзевічу і ўсім Ксяндзам з нашай парафіі, а таксама Сёстрам Марыі Стасевіч, Ірыне Барцэвіч, Мар'яне Алешчык, Філатэі Цілановіч, Клары Волчак, Агаце Смольскай, Аляксандры Арэшка, Вераніцы Блізнюк, Дар'і Еўтухоўскай, Вераніцы Огар**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя на доўгія гады, патрэбных ласкаў ад Усемагутнага, дароў Святога Духа і задавальнення ад кожнай перажытай хвіліны. Няхай Езус, які прыходзіць у свет, благаслаўляе Вас, а Яго Маці дадае сіл і цярплівасці на выбраным шляху.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Павайбу**
з нагоды Дня нараджэння і свят Раства Хрыстова складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Божае Дзіця асвячае Тваё жыццё, заўсёды паказвае дарогу да праўды, любові, міласэрнасці, шчасця і супакою. Жадаем моцнага здароўя, энергіі, людской добразычлівасці і непахіснай веры. Дзякуем за Твой аптымізм, добрае сэрца, чуласць, велікадушнасць, увагу і цяпло, якое дорыш нам і ўсім навокал! Удзячныя Богу, што падарыў нам такога сына і брата.

*Бацькі, сёстры і брат*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Яну Этэлю**
з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай Езус Хрыстус заўсёды дапамагае, Маці Божая нястомна чувае над Вамі, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі. Ад усяго сэрца дзякуем за ўсмешку, дабрыню, адкрытае сэрца і ахвярную працу на карысць Богу і людзям.

*З павагай, Легіён Марыі і група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Юрый Ёдзік!**
З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года прыміце самыя найлепшыя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш святарскі шлях, нясе супакой і радасць, Дзіцятка Езус апрамяняе сваім святлом, а Найсвяцейшая Маці атуляе плашчом любові. Жадаем Вам моцнага здароўя, Божага благаслаўлення, сілы, аптымізму, надзеі і веры. Дзякуем за служэнне ў нашай парафіі, ахвярную і адданую працу ў справе аднаўлення святыні, за дабрыню і павагу да нас, прывітлівасць і зразуменне.

*Парафіяне з Цудзенішкаў*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Сядлецкаму і Тадэвушу Качану**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем тых дароў, якія прынёс у свет Езус Хрыстус, каб узбагаціць нас імі. Няхай Збаўца ў таямніцы Божага Нараджэння адорвае Вас спакоем і радасцю, а Панна Марыя выпрошвае патрэбныя ласкі. Няхай на кожным з Вас здзейсняцца словы благаслаўлення з Кнігі Лічбаў: "Няхай цябе Пан благаслаўляе і сцеражэ. Няхай Пан распраменіць сваё аблічча над табой, няхай цябе адорыць сваёй ласкай. Няхай зверне да цябе сваё аблічча і няхай адорыць цябе супакоем (Ліч 6, 24–26).

*Касцёльны хор з парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Канвеліках, вернікі з вёсак Навіянка і Пашэлі*

**Паважаным Ксяндзам Віталію Цыбульскаму, Юрыю Ёдзіку, Аляксандру Вараб'ёву, Дзмітрыю Урбановічу і Артуру Валчкевічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем усяго самага найлепшага: добрага здароўя на доўгія гады жыцця, моцнай веры, надзеі і любові на кожны дзень, нястомнай радасці і супакою ў сэрцы. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе Вас найпрыгажэйшай дарогай да Пана, Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом мацярынскай любові, а маленькі Езус благаслаўляе і шчодра адорвае сваімі ласкамі.

*З павагай, Ружанцовае кола і Легіён Марыі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, сіл, стойкасці, радасці, натхнення, добразычлівых людзей побач, а таксама шматлікіх Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці і дароў Святога Духа. Шчасці Божа!

*З павагай, аб'яднанне "Жыццё без межаў", Смаргонь*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: шматлікіх Божых ласкаў і радасці ад святарскай паслугі.

Ад чыстага сэрца
здароўя жадаем,
Вас Духу Святому
заўжды давяраем.
Хай сыдзе на Вас і
асвеціць святлом,
Здароўе ўмацуе,
сагрэе цяплом!
А Божую Маці мы
будзем маліць,
Каб ласкай Хрыстовай
святар наш мог жыць.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" і Кола Жывога Ружанца з Жырмунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Цуд Нараджэння Пана няхай здарыцца ў нашых сэрцах, каб у іх знайшла прытулак уся бядя гэтага свету. Калі Хрыстос будзе Валадаром у душах, нішто злое нам не пагражае. Веры ў немагчымае і незразумелае, радасці ад малых рэчаў і вялікага сэрца, каб святы былі сапраўды радаснымі!

*Сям'я Малышка з Балі Касцёльнай*

**Паважаным Ксяндзам Віктару Мыслюку і Леону Лішыку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем мноства ласкаў ад Дзіцятка Езус, нязменнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама моцнага здароўя, радасці і душэўнага супакою на кожны дзень жыцця.

*Ружанцовае Кола МБ Нястомнай Дапамогі, Воўпа*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай нованароджаны Збаўца адорыць Вас моцным здароўем, радасцю, любоўю і надзеяй, а Яго Маці апекуецца Вамі і штодзённа аберагае. Няхай Бэтлеемская зорка асвеціць Ваша жыццё!

*З малітвай і павагай, вернікі з Поразава і Студзенішкаў*

**Паважанаму Айцу Станіславу Садоўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збаўца, які прыносіць супакой усяму свету, адорвае Вас сваімі ласкамі, здароўем і радасцю, а далейшыя гады жыцця праходзяць у шчасці.

*З малітвай і павагай, былыя парафіяне з Поразава*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, радасці, а таксама дабразычлівых людзей побач. Няхай святы Заступнік апекуецца Табой, а Езус Хрыстус і Яго Найсвяцейшая Маці адорваюць любоўю і асвячаюць кожны дзень святарскай паслугі.

*Родныя*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шанчуку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Дзіцятка Езус адорыць Вас добрым здароўем, сэрца ніколі не засмуціцца, а далейшае жыццё плыве ў шчасці і спакоі.

*Парафія Гожа, Пералом*

**Паважанаму Айцу Вальдэмару Слоту**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем радасці ад абвяшчэння Божага слова, благаслаўлення Божага Дзіцятка, здароўя, сілы ў пераадольванні цяжкасцей штодзённага жыцця, цярплівасці, непахіснай веры, моцнай надзеі і бясконцай радасці ад выкакання сваёй паслугі.

*Апостальства дапамогі чысцовым душам з Вялікай Бераставіцы*

**Паважаным Айцам Мар'яну Хаменю, Пятру Вішнеўскаму і Сястры Элігіі**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, Божых ласкаў, радасці, поспехаў. Няхай Пан Езус будзе Вашым Сябрам, Марыя адорвае цяплынёй сэрца, Дух Святы асвятляе шлях, а Анёл-ахоўнік дапамагае ў кожную хвіліну жыцця.

*Вернікі з парафіі Шылавічы*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, здзяйснення мар, дабрыні і зычлівасці ад людзей. Няхай Дзіцятка Езус благаславіць кожны дзень жыцця, а Маці Божая заўсёды апекуецца Вамі. Няхай на твары ззяе ўсмешка, сэрца моцна б'ецца ад любові, якая ў ім жыве, і кожны дзень будзе напоўнены сонцам і шчасцем.

*Вернікі парафіі Дварэц, удзячныя парафіяне з Раготна*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай нованароджаны Збаўца адорыць Вас здароўем, радасцю і сілай, а Яго Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі і ахоўвае кожны дзень. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваша жыццё і прыносіць супакой у сэрца і душу.

*Члены руху "Маці ў малітве"*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рэйшалю і Сястры Ганне**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, усіх Божых ласкаў, радасці на кожны дзень, нястомнага клопату Найсвяцейшай Маці. Няхай добры Бог чувае над Вамі і заўсёды мае ў сваёй апецы.

*Удзячныя парафіяне з капліцы Ліпічна*

**Паважаным Айцам Пробашчу Вітольду Пяцельчыцу, Аляксандру Махначу, Віталію Сярко, Яну Асіповічу, Віталію Слуку, а таксама ўсім Айцам, якія абвяшчалі Божае слова і здзяйснялі душпастырскую паслугу ў нашай святыні,**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збаўца благаслаўляе Ваш жыццёвы шлях, адорвае моцай і натхненнем для здзяйснення ўсіх мэт і планаў. Няхай Маці Божая ахіне Вас сваёй апекай, а Святы Дух адорыць патрэбнымі ласкамі. Сардэчна дзякуем за набожную навуку, клопат аб вернікахі святыні.

*З малітвай і павагай, парафіяне, Біблійнае кола св. Тэрэзы Авільскай і Ружанцовае кола св. Максіміляна ў Шчучыне*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму, Юрыю Марціновічу, Юрыю Павайбу, Юрыю Свіслоцкаму, Вітольду Лазавіцкаму, Юзафу Ганьчыцу, Аляксандру Севацьяновічу, Валерыю Быкоўскаму, Айцам Казіміру Енджэйчаку і Антонію Пажэцкаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем шчырыя пажаданні ўсяго найлепшага: здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, усіх Божых ласкаў, нязменнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і благаслаўлення ад Божага Дзіцятка.

*Апостальства "Маргарытка", Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Шаноўным Сёстрам Гарэцці Мількевіч, Эўхарыі Хульбой, Юліце Пятровай, Паўле Радзівілка**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем, каб нованароджаны Збаўца адарыў Вас моцным здароўем, сілай, радасцю, людской добразычлівасцю, супакоем і моцнай верай.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу**
з нагоды Імянін і свят Божага Нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Усемагутны ўзнагародзіць Вас моцным здароўем, стойкасцю ў аддана служэнне Богу і людзям. Няхай на дарозе, якую ўказаў Вам Пан, заўсёды будуць побач Езус і Яго Маці, а жывы агонь Святога Духа, які палае ў Вашым сэрцы, ніколі не аслабне. Дзякуем за шчырыя малітвы, мудрыя казанні, увагу і сардэчнасць.

*Вернікі са Старога Сяла*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем здароўя, поспехаў, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай нованароджаны Езус Хрыстус прынясе спакой і радасць.

*Вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці, Доцішкі*

**Паважаным Ксяндзу Аляксандру Баклажцу, Сёстрам Дароце, Аўгустыне, Ярдане, Аляксандры і Марыне**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, душэўнага супакою, шмат сіл і стойкасці ў душпастырскай працы, а таксама благаслаўлення ад Дзіцятка Езус і нязменнай апекі Маці Божай у кожную хвіліну жыцця.

*Кл. Віталій і сям'я Саўко з в. Вейшычы*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Беланосу і Яраславу Грынашкевічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем благаслаўлення Божага Дзіцяці, нязменнай апекі Панны Марыі на святарскім шляху, шчодрых дароў Святога Духа, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, шчырых і добрых людзей побач. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе Вас самымі прыгожымі шляхамі да Пана.

*Удзячныя парафіяне з Макараўцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Езус адорвае Вас усімі патрэбнымі ласкамі і напаўняе сэрца супакоем, радасцю і любоўю. Жадаем добрага здароўя, моцы Святога Духа і штодзённай апекі Маці Божай.

*Касцёльны камітэт з парафіі Нараджэння НПМ, Дуды*

**Каханаму сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збаўца адорвае Цябе здароўем, радасцю, супакоем і благаслаўленнем, а Маці Божая атуляе сваім мацярынскім плашчом і абараняе ад зла.

*Бацькі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, добразычлівых людзей побач. Няхай нованароджанае Божае Дзіця атуляе і адорвае Вас сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом сваёй дабрыні. Дзякуем Богу за тое, што Вы з намі. Запэўніваем у сваёй малітве.

*Ружанцовае кола НПМ Тракельскай, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з Юрацішкаў, вернікі з в. Цянюкаўшчына*

працяг віншаванняў на с. 8

# Ад шчырага сэрца

**Паважаны Ксёндз Пробашч Ян Рушніцкі!**
З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем блаславлення ад Дзіцятка Езус, здароўя на доўгія гады, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая прытуляе Вас да свайго сэрца і ахінае плашчом сваёй апекі, падтрымлівае і дадае сіл. Мы шчаслівыя, што Вы з намі. Дзякуем за працу ў парафіі, мудрыя павучанні, цярплівасць і клопат пра нас.
*Касцёльны камітэт і парафіяне з Каробчыцаў і навакольных вёсак*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай заўсёды хапае сіл, запалу і стойкасці ў душпастырскай паслузе, кожная хвіліна жыцця няхай будзе радаснай і блаславлёнай Панам. Няхай нованароджанае Божае Дзіця адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі, а міласэрная Маці заўсёды мае ў сваёй апецы.
*З малітвай, апостальства "Маргарытка" і парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, радасці, блаславлення ад Божага Дзіцятка і апекі Яго Маці. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае святарскі шлях.
*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Юзафу Багдзевічу, Юрыю Ясевічу, Сёстрам Рэгіне, Наталлі і Наталлі**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем моц сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, няспыннай радасці ад паслугі Богу і людзям, здзяйснення ўсіх высакародных мар. Няхай нованароджаны Езус адорыць Вас патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая заўсёды мае ў сваёй апецы. Няхай Бэтлеемская зорка асвятляе жыццёвы шлях і паказвае найпрыгажэйшую дарогу да Пана. Дзякуем за шчырыя малітвы і ахвярную працу ў нашым касцёле.
*Удзячныя вернікі з парафіі свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Цэрабею**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, блаславёнага плёну ў душпастырскай працы, радасці, аптымізму. Няхай сэрца палае любоўю да Пана і бліжняга, а Маці Божая атуляе плашчом сваёй дабрыні і нястомна Вам апекуецца.
*З малітвай, парафіяне з Барунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Ваша самаадданая святарская паслуга і надалей далучае нас да Боскай існасці. Вы нясеце радасць Евангелля дарослым і дзецям. Кожнае прамоўленае слова глыбока западае ў душу. Ад усяго сэрца дзякуем за тое, што Вы побач з намі ў радасці і цярпенні. Жадаем моцнага здароўя, сілы і душэўнага супакою, а таксама ўсіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай з Вашага твару ніколі не знікае ўсмешка!
*Парафіяне з вёсак Гнэлі і Салтанішкі, удзельнікі касцёльнага хору парафіі Нача*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, цярплівасці і моцы на кожны дзень жыцця. Няхай Божае Дзіця адорыць Вас усімі ласкамі, а Анёлы пакажуць карацейшы шлях да Бэтлеемскай стайні.
*Вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Доцішках*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Марціновічу і Андрэю Лысаму, Айцу Андрэю Жылевічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шмат здароўя і сіл, душэўнага супакою і нязгаснага запалу веры. Няхай нованароджанае Дзіцятка Езус адорыць Вас усімі сваімі ласкамі і блаславленнем.
*Апостальства "Маргарытка" з в. Сураж*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Несцеру, Віктару Савіцкаму, Юрыю Марціновічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем усіх Божых ласкаў. Няхай святая ноч заззяе бляскам надыходу Караля над вякамі, увесь новы год будзе напоўнены супакоем і міласэрнасцю, а Бэтлеемская зорка асвячае святарскі шлях. Радасных свят і блаславлення ад Божага Дзіцятка і Яго Маці!
*Ружанцовае кола і вернікі з в. Вінцукі*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Несцеру і Юрыю Марціновічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, цярплівасці, стойкасці, радасці, добрых людзей і шчодрага плёну ў душпастырскай паслузе. Няхай Ваш святарскі шлях будзе блаславёны, сэрца напаўняюць дары Святога Духа, а Маці Божая прытуляе да сябе. Жадаем, каб Бэтлеемская зорка асвячала Ваш жыццёвы шлях і дапамагала весці да навяртання тых, хто яшчэ не ведае Хрыста.
*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў, вернікі з капліцы Сураж*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку**
з нагоды Імянін, свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, Божага блаславлення на кожны дзень, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху, нязгаснага запалу ў працы, натхнення. Няхай радасць спадарожнічае Вам кожны дзень, а Святы Дух асвячае жыццёвы шлях і вядзе за Хрыстом.
*З малітвай, удзячныя вернікі з парафіі св. Андрэя Баболі ў Казловічах*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Алегу Жураўскаму, Здзіславу Вэдэру, Клерыку Марку Найдзічу, Сёстрам Ірыне Барцэвіч, Вераніцы Блізнюк, Вераніцы Огар, Дар'і Еўтухоўскай**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Езус шчодра адорыць Вас сваімі ласкамі, моцным здароўем і душэўным супакоем. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя няспынна Вамі апекуецца, а Святы Дух апраменьвае сваім святлом. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, добрае сэрца і малітву.
*Моладзь, дзеці, міністранты, зкрыстыянін і арганіст Здзіслаў, удзячныя парафіяне са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Казлоўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаю сардэчныя пажаданні: здароўя, поспехаў, сіл, радасці, апекі Маці Божай і ўсіх дароў Святога Духа. Няхай нованароджаны Езус адорыць Вас шчасцем і блаславленнем. Радасных свят!
*Здзіслаў са Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму, Юрыю Павайбу, Юрыю Свісłоцкаму, Юрыю Марціновічу, Сёстрам Эўхарыі, Гарэцці і Юліце**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем шмат здароўя, душэўнага супакою, радасці, моцнай веры, Божых ласкаў, цярплівасці, зычлівасці ад людзей. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды чувае над Вамі і мае ў сваёй апецы.
*Сям'я Касцюшка*

**Паважанаму Айцу Яцэку Маркелю**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шмат ласкаў ад нованароджанага Дзіцятка Езус і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Бог, які паклікаў Вас да святарства, узнагародзіць за ўсе малітвы, казанні, прыклад набожнасці і дабрыні.
*З павагай, былыя парафіяне з Зэльвы сем'і Трубей і Раманчук*

**Паважаны Айцец Яцэк Маркель!**
З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб маленькі Езус адорваў Вас здароўем, цярплівасцю і сілай. Для нас Вы заўсёды будзеце яснай зоркай, ззяючы дабрынёй і любоўю кожнаму чалавеку. Няхай пяшчотная ўсмешка ніколі не знікае з Вашага твару!
*Акуневіч Марыя і Анатолій з сям'ёй, Зэльва*

**Паважаным Ксяндзам Люцыяну Радомскаму, Марэку Занеўскаму, Андрэю Лішко, Лешку Дамагалу, Пробашчу Тадэвушу Крыштопіку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем самыя сардэчныя пажаданні: патрэбных Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, поспехаў у працы, стойкасці на святарскім шляху і зычлівых людзей побач. Сардэчна ўдзячны Вам за абвяшчэнне Божага слова.
*Вернікі з капліцы Божай Міласэрнасці ў Свіслачы*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем унутранага супакою, стойкасці, здароўя, сілы і радасці, а таксама Божага блаславлення на кожны дзень нoвага года.
*Яна, Валерый і Вераніка*

**Паважаным Ксяндзам Валерыю Быкоўскаму і Юрыю Канапельку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчасця і поспехаў у душпастырскай працы. Няхай міласэрны Бог заўсёды Вас засцерагае і шчодра ўзнагароджвае за нялёгкае служэнне, а Найсвяцейшая Маці няспынна Вамі апекуецца.
*Ян Цевель і вернікі папраўчай калоніі №11 у Ваўкавыску*

**Паважаным Айцам Пробашчу Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензу, Андрэю Врублеўскаму, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану, Эдуарду Пяцельчыцу, Андрэю Ядкоўскаму, Станіславу Станеўскаму, Вальдэмару Слоту**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат сіл, стойкасці і запалу ў абвяшчэнні Божага слова, а таксама апекі Маці Божай і блаславлення ад Дзіцятка Езус.
*Апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля*

**Паважанаму Айцу Андрэю Врублеўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб нованароджаны Збаўца, які нясе супакой усяму свету, адарыў Вас сваімі ласкамі, здароўем, радасцю і душэўным супакоем, а Найсвяцейшая Панна Марыя прытуліла да свайго Сэрца.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля*

**Паважанаму Айцу Дзмітрыю Лабкову**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, сілы, стойкасці, цярплівасці, Божых ласкаў і нястомнай дапамогі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Ваша сэрца будзе напоўнена радасцю і любоўю.
*Францішканскі ордэн свецкіх з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля*

**Паважанаму Ксяндзу Люцыяну Дамброўскаму**
з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, людской добразычлівасці і шчодрых Божых ласкаў. Няхай нованароджаны Збаўца, які нясе супакой усяму свету, няспынна адорвае Вас сваімі дарамі: радасцю, любоўю, надзеяй і душэўным супакоем.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Барунаў*

**Паважаны Ксёндз Рэдактар Юрый Марціновіч і Рэдакцыйны калектыў газеты "Слова Жыцця"!**
З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем Вам радасці, нястомных сіл, моцнага здароўя, шчасця, паспяховай рэалізацыі ўсіх планаў, добразычлівых людзей побач, гатовых прыйсці на дапамогу. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае жыццё і прыносіць супакой у сэрца і душу. Дзякуем за аддадзеную працу на карысць людзям.
*Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Раману Цесляку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаю, каб нованароджаны Езус благаслаўляў і адорваў сваімі ласкамі. Здароўя на доўгія гады, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Маці Божай. Вельмі ўдзячна Вам за казанні і парады, спеў і ўсмешку, зычлівасць і добрае сэрца.
*З малітвай, Данута з сям'ёй, Гродна*

**Паважаным Ксяндзам Віктару Мыслюку, Леону Лішыку, Яну Сарэлу, Аляксандру Другосю**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя віншаванні. Няхай Бэтлеемская зорка асвеціць дарогу жыцця, народжанае ў хлеўчыку, убостве і холадзе Дзіцятка Езус благаслаўляе Вас, а Маці Божая будзе нястомнай Заступніцай і Дапаможніцай!
*Парафіяне з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем, каб кожны дзень новага года быў напоўнены Божай моцай, святлом, любоўю, людской зычлівасцю, дабрынёй. Няхай нованароджаны Збаўца вядзе цудоўным святарскім шляхам, а Найсвяцейшая Маці заўсёды апекуецца Вамі.
*Малітоўная група Маці Божай Кангрэгацкай*

**Паважаным Ксяндзам Алегу Кудэрку, Віталію Сідорку, Мікалаю Ціхановічу і Андрэю Радзевічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем радасці, поспехаў ва ўсіх справах, штодзённай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Бог нястомна адорвае Вас сваёй бясконцай ласкай і міласэрнасцю, умацоўвае веру, натхняе і накіроўвае. Будзьце святлом гэтаму свету!
*Душпастырства службы аховы здароўя*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу**
з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем здароўя, шчасця, Божага блаславлення, нястомнай апекі Маці Божай. Няхай Анёл-ахоўнік выпрошвае ў Пана ўсе патрэбныя Вам ласкі. Дзякуем Богу і Вашай маме за такога цудоўнага святара!
*Парафіяльная рада, Рэпля*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**
з нагоды Дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў: штодзённай радасці, усмешак, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця. Няхай Марыя заўсёды прытуляе Вас да свайго Сэрца, а Езус адорвае супакоем і падтрымлівае ў святарскай паслузе.
*Парафіяне з касцёла Гродна-Паўднёвы*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу і Сястры Зоф'і Смятанка**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб маленькі Езус адорваў здароўем, цярплівасцю і сіламі, Маці Міласэрнасці апекавалася, а Святы Дух шчодра ўдзяляў патрэбныя ласкі. Для нас Вы заўсёды будзеце яснымі зоркамі, якія ззяюць кожнаму чалавеку любоўю, дабрынёй і цеплынёй. Молімся, любім, паважаем і ганарымся Вамі.
*Касцёльны камітэт, дзеці і парафіяне з Жамыслаўля, удзячныя вернікі з Провічаў*

**Паважанаму Айцу Томашу Ксёнжкевічу**
з нагоды Дня нараджэння, свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і душпастырскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі нястомна, Святы Дух адорвае сваімі дарамі, а Дзіцятка Езус благаслаўляе з яслеў. Жадаем таксама моцнага здароўя, шмат радасці, шчасця і душэўнага супакою.
*Парафіяне з Азёраў*

**Шаноўным Ганне і Сяргею Пратасевічам**
з нагоды 25-й гадавіны шлюбу ад шчырага сэрца жадаю з кожным днём умацоўвацца ва ўзаемнай любові. Няхай Бог адорвае моцным здароўем Вас, дзяцей і ўнукаў, благаслаўляе кожны дзень і ўдзяляе ўсе свае ласкі, а Найсвяцейшая Панна нястомна Вамі апекуецца.
*Хросная маці Бернарда*

Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **8 0152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Палiграфiстаў, 4; нумар заказу 18 ; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная